




# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

30 чэрвеня 1924 г. № 6. Арт. 192—242.



ЗЬМЕСТ.

**I. Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаучага Камітэту Саюзу ССР.**



**II. Пастановы і загады Савету Народных Камісарау Саюзу ССР.**



**III. Пастановы і загады СПА Саюзу ССР.**

# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**192. Аб прывілеях у галіне мясцовага абкладаньня дзеля дэмабілізаваных і зьволеных у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту і іх сем'яў.**

У дадатак да арт.арт. 42, 56, 65, 79, (увага) і 100 (увага) часовага палажэньня аб мясцовых грашах Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

А. Прадугледжаныя часовым палажэньнем аб мясцовых грашах (п. „е“ арт. 42, п. „б“ арт. 56, п. „а“ арт. 65, п. „а“ увагі 1 да арт. 79 і увага 1 да арт. 100) прывілеі у галіне мясцовага абкладаньня, устаноўленыя для ваеннаслужачых і іх сем'яў, пашырыць на дэмабілізаваных і зволеных у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту, а так сама на сяброў сем'яў дэмабілізаваных і зволеных у бястэрміновы водпуск, знаходзячыхся на забясьпецы апошніх — у працягу аднаго году з дня дэмабілізацыі або звальненьня у бястэрміновы водпуск.

Б. Занясьці у часовые палажэньне аб мясцовых грашах наступныя дадаткі і з'інačаньні:

**1.** Арт. 42 дапоўніць п. „і“ наступнага зьместу:

„і) будовы, належачыя дэмабілізаваным і зволеным у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту ці знаходзячымся на іх забясьпецы сябрам іх сем'яў, калі будовы гэтыя заняты непасрэдна дэмабілізаванымі і зволенымі у бястэрміновы водпуск ці знаходзячыміся на іх забясьпецы сябрамі іх сем'яў і не эксплёатуюцца імі праз здачу у наём—у працягу году з дня дэмабілізацыі ці звальненьня у бястэрміновы водпуск“.

**2.** Арт. 56 дапоўніць пунктам „з“ наступнага зьместу:

„з) сады, знаходзячыяся у гарадзкіх пасяленьнях у карыстаньні дэмабілізаваных і зволеных у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту або знаходзячыхся на іх забясьпецы сяброў іх сем'яў бяз ужываньня наёмнай працы, калі на усю сям'ю прыходзіцца ня больш 120 квадратовых сажняў,—у працягу аднаго году з дня дэмабілізацыі ці звальненьня у бястэрміновы водпуск“.

**3.** Арт. 65 дапоўніць пунктам „д“ наступнага зьместу:

„д) коні, належачыя дэмабілізаваным і зволеным у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту ці знаходзячымся на іх забясьпецы сябрам іх сем'яў, у колькасьці аднаго каня на ўсю сям'ю калі коні гэтыя не належаць да ліку выяздных коняў і скарыстаюцца выключна дзеля абслугоўваньня хатняе гаспадаркі дэмабілізаваных ці зволеных у бястэрміновы водпуск,—у працягу аднаго году з дня дэмабілізацыі ці звальненьня у бястэрміновы водпуск“.

**4.** Увагу 1 да арт. 79 дапоўніць п. „в“ наступнага зьместу:

„в) скот, належачы дэмабілізаваным і зволеным у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту ці знаходзячымся на іх забясьпецы сябрам іх сем'яў у колькасьці аднэй галавы буйнае, жывёлы і трох галоў дробнае жывёлы на ўсю сям'ю,—у працягу аднаго году з дня дэмабілізацыі ці звальненьня у бястэрміновы водпуск“.

**5.** Увагу 1 да арт. 100 выкласьці у наступнай рэдакцыі:

Увага 1. Ад выплаты прапісачнага збору звальняюцца:

а) асобы, знаходзячыяся на службе у чырвонай арміі і флёце і сябры іх сем'яў;

б) дэмабілізаваныя і зволеныя у бястэрміновы водпуск з чырвонай арміі і флёту і знаходзячыяся на іх забясьпецы сябры іх сем'яў—у працягу аднаго году з дня дэмабілізацыі ці звальненьня у бястэрміновы водпус.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 чэрвеня 1924 г.

---

**193. Аб дадатку да пераліку элеватараў, маючых агульнасаюзнае значаньне.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Нар[...] Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Уключыць у пералік элеватараў, маючых агул[...]саюзнае значаньне (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 19[...] № 4, арт. 129) наступныя партовыя элеватары;

1. Новарасійскі,
2. Растоўскі,

3. Нікалаўскі,
4. Адэскі,
5. Ленінградскі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
28 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 194. Аб мерах дапамогі экспорту налівак і настояк.

У дадатак да пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 11 студзеня 1923 году аб мерах дапамогі экспорту (Зб. Зак. РСФСР 1923 году № 3, арт. 60), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Пры вывазе за-кардон налівак і настояк, апрача зьняцьця як аснаўнога, гэтак і дадатковага акцызу, належачагася за вывезеную колькасьць памянёных сьпіртовых напіткаў, адлічаецца безакцызна: а) у прэмію—5% з колькасьці вывезеных за кардон налівак і настояк, б) на пакрыцьцё дарожных тратаў; пры перавозцы у бочках і бачонках за першы дзень знаходжаньня транспарту у дарозе 0,5% і ў кожны з наступных дзён 0,1%, але ўсяго ня больш 6%, і пры перавозцы у шкляной, фарфаравай і іншай пасудзе—½% з усяе колькасьці налівак і настояк, паказанае у дакумантах, якія йдуць з транспартамі.

2. Народнаму камысарыяту грашовых справаў Саюзу СРР даручаецца выдаць, водлуг згоды з народным камісарыятам замежнага гандлю і вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР інструкцыю аб ужываньні гэтае пастановы.

3. Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы устанаўліваецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР і агалашаецца у „Известіях ЦИК Союза ССР и ВЦИК“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 6 чэрвеня 1924 г.

---

## 195. Аб аплаце гэрбавым зборам бягучых рахункаў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дапоўніць частку 1 таблю папераў, актаў і дакумантаў, падлягаючых гэрбаваму збору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1925 году, № 5, арт. 114, дадатак 1 да статуту аб гэрбавым зборы), параграфам 36-а наступнага зьместу:

„Квіткі, расьпіскі, білеты і інш. дакуманты аб прыёму грошаў на просты, умоўны і адмысловы бягучыя рахункі, выдаваемыя крэдытовымі установамі, а роўна замяняючыя гэтыя дакуманты запісы у падрахункавых кніжках кліентаў, засьведчаныя крэдытоваю установаю. абкладваецца простым гэрбавым зборам III разраду.

Увага. Дакуманты і запісы аб прыёму грошаў на вышэйпаказаныя бягучыя рахункі ад выплаты гэрбавага збору звальняюцца, калі сума ўзносу не перавышае 100 рублёў.

2. Дапоўніць § 38 2-й часткі таго ж таблю увагаю 2 наступнага зьместу:

„Опэрацыі па адмысловым рахункам абкладваюцца у парадку арт. 36-а гэтага таблю.

3. Дапоўніць § 45 часткі 2 таго ж таблю словамі:

„за выключэньнем прадугледжаных арт. 36-а гэтага таблю.

4. Адмяніць § 52 пераліку выняткаў па гэрбаваму збору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР 1923 г., № 5, арт. 114, дадатак 2).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 чэрвеня 1924 г.

---

## 196. Аб забароне гандлю і хаваньня золата, серабра, плаціны і замежнае валюты у 50-вёрстнай пагранічнай паласе.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Забараніць у раёне 50 вёрстнае пагранічнае паласы, выключаючы пункты, асобна устаноўленыя народным камісарыятам грашовых справаў водлуг згоды з народным камісарыятам замежнага гандлю і Аб'яднаным Палітычным Упраўленьнем, утварэньне усіх зьдзелак па адчужджэньню і хаваньню золата, серабра, плаціны, мэтала плацінавае групы у лому, зьлітках і манэце, не зьяўляючайся законным плацежным сродкам на абшары Саюзу ССР, роўна замежнай валюты.

2. Нарушэньне гэтае пастановы караецца як кантрабанда, водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 6 чэрвеня 1924 г.

---

## 197. Аб абкладаньні зьдзелак аб куплі, прадажы і разьмену валютных і фондавых каштоўнасьцяў простым гэрбавым зборам.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

А. Дапоўніць частку 1 таблю папераў, актаў і дакумантаў, падлягаючых гэрбаваму збору (дадатак 1 да статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 году, № 5, арт. 114), параграфам 36-б наступнага зьместу:

„зьдзелкі аб куплі, прадажы і разьмену валютных і фондавых каштоўнасьцяў, дапушчаных да законнага звароту, абкладваецца простым гэрбавым зборам наступных разрадаў:

| | | |
|---|---|---|
| Зьдзелкі на суму да 500 руб. | . . . . . | IV (6 кап.). |
| Звыш 500 р. „ 3000 „ | . . . . . | III (15 кап.). |
| „ 3000 „ „ 5000 „ | . . . . . | II (1 руб.) |
| „ 5000 „ | . . . . . . . . . . . . | I (1 р. 65 к.). |

Б. Дапоўніць § 44 таго ж таблю увагаю наступнага зьместу:

„Увага. Дакуманты аб зьделках куплі, прадажы і разьмену валютных і фондавых каштоўнасьцяў— абкладваюцца гэрбавым зборам у парадку § 36-б гэтага таблю“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 8 чэрвеня 1924 г.

---

## 198. Аб адмене спагнаньня акцызу з сахарыну і аднародных з ім штучна-салодкіх рэчаў.

Для адмены дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 30 лістападу 1922 году аб акцызе з сахарыну (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 80, арт. 1007), арт. 8 падзелу 1 дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў РСФСР ад 19 красавіка 1923 году аб устанаўленьні велічыні акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 33, арт 362); арт. 9 дадатку да пастановы Савету Працы і Абароны ад 24 жніўня 1923 г., „аб выражэньні цьвердых акцызных ставак у чырвоным вылічэньні“ (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 году, № 13, арт. 365), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Адмяніць спагнаньне акцызу з сахарыну і аднародных з ім штучна-салодкіх рэчаў, як вырабляемых на абшары Саюзу ССР, гэтак і прывожваемых з-за кардону.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 6 чэрвеня 1924 г.

---

## 199. Аб зьмене назвы г. Юзаўкі і ст. Юзава.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зьмяніць назву г. Юзаўкі на г. „Сталін“, акругу Юзаўскую — на „Сталінскую“ і ст. „Юзава“, Кацярынінскае чыгункі, на ст. „Сталіна“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 10 чэрвеня 1924 г.

---

## 200. Палажэньне аб арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР.

**1.** Пры Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР знаходзіцца арбітражная камісія, веданьні якой падлягае разгляданьне і вырашэньне маентных спрэчак паміж дзяржаўнымі установамі і прадпрыёмствамі у наступных выпадках: а) калі адзін або абодва спрэчаючыяся бакі—цэнтральныя органы устаноў Саюзу ССР або прадпрыёмствы, прызнаныя агульнасаюзнымі у парадку п. „а“ арт. 1 Канстытуцыі Саюзу ССР; б) калі адзін ці абодва спрачаючыяся бакі—мясцовыя органы названных пад літ. „а“ установаў і прадпрыёмстваў, і калі пры гэтым галава цэнтральнага органу адпаведнае установы ці прадпрыёмства патрабуе перадачы спрэчкі на вырашэньне арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны; в) калі спрачаючыміся бакамі зьяўляюцца цэнтральныя органы установаў ці прадпрыёмстваў розных саюзных рэспублік і калі адзін з спрачаючыхся бакоў патрабуе перадачы спрэчкі на вырашэньне арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны.

**2.** З ліку маентных спрэчак, падлягаючых вырашэньню арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны, выключаюцца:

а) спрэчкі паміж дзяржаўнымі установамі і прадпрыёмствамі аднаго і таго ведамству у тым выпадку, калі абодва спрэчаючыяся бакі знаходзяцца на агульнадзяржаўным бюджэце, а так сама у іншых выпадках, калі дзеючымі законамі прадугледжана разгляданьне спрэчак унутрыведамсьцвеным парадкам;

б) спрэчкі, зьяўляючыяся водлуг опэрацыяў дзяржбанку і дзяржстраху, у выпадках, калі дзяржбанк ці дзяржстрах зьяўляюцца істцом ці адказчыкам;

в) спрэчкі, зьяўляючыяся з умоваў чыгуначнае перавозкі, рэгуліруямых статутам чыгунак, а так сама спрэчкі, зьяўляючыяся з умоваў аб пачтовай перасылцы, рэгуліруемыя асобнымі правіламі аб адпаведнасьці пачтова-тэлеграфнага ведамству за пачтовыя адпраўкі;

г) іскі па пратаставаным вэксалям, апрачатых выпадкаў, калі процiу вэксальнага іску, згодна дзеючых законаў, могуць быць прывадзімы пярэчаньні, выяўляючыяся з зьдзелкі, паслужыўшай падставаю да выдачы ці перадачы вэксаляў;

д) іскі, выяўляючыяся з умоваў агульна устаноўленага тыпу аб карыстаньні камунальнымі прыслугамі, як: тэлефонам, электрычным асьвятленьнем і вадаправодам, а раўна і памешканьнямі;

е) спрэчкі, выяўляючыяся па поваду абкладаньня падаткамі і павіннасьцямі ўсякага роду, як агульнадзяржаўнымі, гэтак і мясцовымі, а так сама спрэчкі з грашовымі органамі аб выканаўню бюджэту.

3. Арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны утвараецца у складзе старшыні і сяброў, у ліку, азначаемым Саветам Працы і Абароны.

Старшыня і сябры арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны назначаюцца Саветам Працы і Абароны.

4. Справы прыймаюцца арбітражнай камісіяй пры Савеце Працы і Абароны да свайго разгляданьня толькі водлуг заявы на паперы установы ці прадпрыёмства, лічучага свае правы нарушанымі.

Кожны бок павінен давясьці тыя абставіны, на якія ен ссылаецца у абаснову сваіх дамаганьняў і пярэчаньняў. Довады могуць быць так сама зьбіраемы па ініцыятыве арбітражнае камісіі. Калі пададзеныя довады нездавальняючы, арбітражная камісія можа прапанаваць абодвум бакам падаць дадатковыя довады.

5. Пры пастанове разьвязку арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны вырашае спрэчку, кіруючыся дзеючымі законапалажэньнямі і агульнымі пачаткамі эконамічнае палітыкі Саюзу ССР, пры чым можа, прымаючы у памеркаваньне агульнадзяржаўныя інтарэсы, пастанавіць:

а) аб адтэрмінаваньні ці растэрмінованьні выкананьня;

б) аб замене прадмету выкананьня іншым прадметам ці грашовым эквівалентам;

в) у выключных выпадках—аб поўным ці частковым вызваленьні аб абавязку ці адпаведнасьці.

6. У вырашэньні ці ў асобнай пастанове арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны паказвае канкрэтны спосаб выкананьня ці дае агульныя паказаньні адносна спосабу выкананьня.

7. Вырашэньні арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны зьяўляюцца канчатковымі і абжалъбаваньню не падлягаюць.

8. Вырашэньні арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны маюць моц судовых вырашэньняў і павінны выконвацца самімі бакамі.

Вырашэньні арбітражнае камісіі пры Савеце Працы і Абароны, нявыкананьня бакамі у устаноўлены арбітражнай камісіяй тэрмін, прыводзяцца у выкананьне прымусовым парадкам.

Парадак прымусовага выкананьня вырашэньняў арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны азначаецца асобнымі правіламі, зацьверджаемымі Саветам Працы і Абароны.

9. Савету Працы і Абароны належыць нагляд за чыннасьцю знаходзячайся пры ім арбітражнай камісіі.

Савет Працы і Абароны можа у парадку нагляду адмяніць ці з'іначыць любое вырашэньне знаходзячайся пры ім арбітражнай камісіі, ці даручыць ей перагледзець вырашаную ею справу.

10. Установы, маючыя права непасрэднага занясеньня пытаньняў у Савет Працы і Абароны, могуць уваходзіць у Савет Працы і Абароны з падачаю аб пераглядзе вырашэньняў арбітражнае камісіі пры Савеце Працы і Абароны у парадку нагляду у працягу месячнага тэрміну з дня прылучэньня да справы матываванага вырашэньня. Старшыня Савету Працы і Абароны мае права пакідаць памянёныя заявы бяз вынікаў.

11. У мэтах асьведамленьня аб дзейнасьці арбітражных камісіяў пры эконамічных нарадах саюзных рэспублік, арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны мае права вымагаць ад іх падачы копіяў вырашэньняў і іншых неабходных ей ведаў.

У выпадку, калі арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны угледзіць у вырашэньні арбітражнай камісіі пры эконамічнай нарадзе ухіленьне ад агульных пачаткаў эконамічнай палітыкі Саюзу ССР, яна паведамляе аб гэтым эконамічнай нарадзе саюзнай рэспублікі і ў копіі—арбітражнай камісіі, якая вынесла вырашэньне.

Калі у працягу 6 тыдняў арбітражная камісія пры Савеце Працы і Абароны не атрымае паведамленьня аб тым, што эконамічная нарада саюзнай рэспублікі прапанавала знаходзячайся пры ёй арбітражнай камісіі перагледзець вырашэньне у кірунку, паказаным арбітражнай камісіяй пры СПА, апошняя уносіць пытаньне у Савет Працы і Абароны.

12. Правілы аб вытворчасьці справаў у арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны, а роўна правілы аб спагнаньні судовых попілін і іншых збораў па вытвараючымся у арбітражнай камісіі пры Савеце Працы і Абароны справам, зацьверджаюцца Саветам Працы і Абароны.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 130 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 чэрвеня 1923 г.

---

## 201. Аб зьдзейсьненьні палажэньня аб мерах і вазе.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць**:

1. Зацьвердзіць палажэньне аб мерах і вазе і зьдзейсьніць яго з дня агалашэньня.

2. Парадак і тэрміны ўвядзеньня мэтрычнага укладу мераў і вагі у розных галінах народнае гаспадаркі устанаўліваюцца Саветам Працы і Абароны Саюзу ССР.

3. Часова, да наступленьня тэрмінаў, памянёных у арт. 2, дапушчаецца карыстаньне рознымі, маючымі ужытак на абшары саюзных рэспублік мерамі і вагою, здавальняючымі правілам, выданым вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 130 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 чэрвеня 1924 г.

---

## 202. Палажэньне аб мерах і вазе.

Раздел I.

### Агульныя палажэньні.

1. Пры ўсякага роду вымерах, якія робяцца у гандлю, прамысловасьці, навуцы, тэхніцы і ў ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі Саюзу Савецкіх Социялістычных

Рэспублік, ужываецца паміжнародны мэтрычны уклад мераў, аснаўнымі адзінкамі якога служаць: паміжнародны кілёграм (адзінка масы); паміжнародны мэтр (адзінка даўжыні).

**2.** Аснаўнымі эталонамі (узорамі) мэтрычных мераў для Саюзу ССР, служаць: копія паміжнароднага кілёграму, якая носіць знак № 12, і копія паміжнароднага мэтру, якая носіць знак № 28, зробленыя з ірыдзістае плаціны, перададзеныя Расеі паміжнароднай канфэрэнцыяй мераў і вагі у 1889 гаду, і хаваючыяся у галоўнай палаце мераў і вагі пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

Увага. Адносіны паміж расейскімі і мэтрычнымі мерамі выводзяцца з наступных аснаўных суадносінаў: фунт (адзінка масы) ровен 0,40951241 паміжнароднага кілёграму; аршын (адзінка даўжыні) ровен 0,711200 паміжнароднага мэтру.

**3.** Адзінкаю часу служаць суткі - 24 гадзіны водлуг сярэдняга сонечнага часу.

**4.** Усе меры і вага, ужываемыя пры азначэньні вагі, даўжыні і аб'ёму у гандлю і прамыслаавасьці, пры прыёмцы, водпуску і разьмяркаваньні матар'ялаў, пры учоце працы для вылічэньня заробачнае платы, падлягаюць абявязковай пэрыодычнай паверцы і кляйменьню і не павінны утрымоўваць хібаў, перавышаючых нормы, дапушчаемыя правіламі, выдаваемымі вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі).

**5.** Тэрмін абявязковай пэрыадычнай паверкі і кляйменьня мераў і вагі, аднолькавы для ўсяго Саюзу ССР устанаўліваецца Саветам Працы Абароны водлуг падачы вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі).

**6.** Абявязковасьць паверкі і кляйменьня вымерных і кантрольных прыбораў, не названых у арт. 4, устанаўліваецца вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі), водлуг згоды з падлягаючымі народнымі камісарыятамі Саюзу ССР і саюзных рэспублік, водлуг належнасьці.

**7.** Прызначаныя дзеля прадажы і зьберагаючыяся у фабрычных і гандлёвых складах і ў майстроў, а так сама прывожваемыя з-за кардону меры і вага, падлягаюць абявязковай паверцы і кляйменьню на агульных падставах.

**8.** Меры і вага, дазволеныя да прывозу з-за кардону і падлягаючыя абавязковай паверцы і кляйменьню, дапушчаюцца толькі праз мытніцы, пералік якіх устанаўліваецца водлуг згоды народнага камісарыяту замежнага гандлю Саюзу ССР з вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзуу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі), ці водлуг згоды упаўнаважаных народных камісарыятаў замежнага гандлю у саюзных рэспубліках з вышэйшымі саветамі народнае гаспадаркі гэтых рэспублік (па палатам мераў і вагі).

**9.** Грашовыя зборы за паверку і кляйменьне мераў, вагі, вымерных і кантрольных прыбораў спаганяюцца па асобным адзіным для ўсяго Саюзу ССР таксам, устанаўліваемым Саветам Працы і Абароны водлуг падачы вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі); гэтыя зборы складаюць срокі палатаў мераў і вагі пры вышэйшых саветах народнае гаспадаркі саюзных рэспублік і трацяцца на утрыманьне паверачных установаў і на разьвіцьцё паверачнае справы у адпаведных саюзных рэспубліках. Парадак выдаткаваньня гэтых сродкаў азначаецца вышэйшым саветам народнае гаспадаркі саюзных рэспублік (па палатам мераў і вагі) водлуг згоды з народнымі камісарыятамі грашовых справаў гэтых рэспублік.

10% адлічэньняў ад збораў, паказаных у гэтым артыкуле, аддаюцца у загад галоўнай палаты мераў і вагі пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР з мэтаю утварэньня адмысловых срокаў і фондаў.

Падзел II.

**Установы дзеля паверкі і нагляду за мерамі і вагою.**

**10.** Агульнае веданьне мерамі і вагою кіраваньне і нагляд за чыннасьцю палатаў мераў і вагі пры вышэйшых саветах народнае гаспадаркі саюзных рэспублік ускладаецца на галоўную палату мераў і вагі пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

**11.** Паверка і кляйменьне мераў, вагі і ўсякага роду вымерных і кантрольных прыбораў, а так сама нагляд за вернасьцю і аднастайнасьцю мераў, вагі і ўсякіх вымерных і кантрольных прыбораў, падлягаючых абавязковай паверцы, і рэвізія іх ускладаецца на палаты мераў і вагі пры вышэйшых саветах народнае гаспадаркі саюзных рэспублік і іх мясцовыя органы (мясцовыя паверачныя палаты мераў і вагі) пад кантролям галоўнай палаты мераў і вагі пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

**12.** Палажэньне аб галоўнай палаце мераў і вагі зацьверджаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР водлуг падачы вышэйшыла савету народнае гаспадаряі Саюзу ССР. Палажэньні аб палатах мераў і вагі пры вышэйшых саветах народнае гаспадаркі саюзных рэспублік і мясцовых паверачных палатах мераў і вагі ўносяцца, па ухваленьні іх вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР, на зацьверджаньне савету народных камісараў саюзрых рэспублік.

**13.** Бліжэйшы нагляд за тым, каб у ва ўсіх выпадках, паказаных у арт. 4, ужываліся меры і вага, якія маюць устаноўленыя паверыцельныя клеймы, адносіцца да веданьня органаў мясцовай міліцыі.

**14.** Органы падатнай інспэкцыі тэхнічнай, санітарнай і гандлёвай і прамысловых установаў, упэйняюцца у прысутнасьці законных клеймаў на мерах і вазе, знаходзячыхся у гэтых установах, і аб заўважаных у гэтых адносінах нарушэньнях складаюць протаколы, якія накіроўваюцца у адмысловыя органы над ляду за мерамі і вагою (арт. 11).

**15.** Асобы, рэвізуючыя меры і вагу, карыстаюцца правам бесперашкоднага ўходу у ва ўсе бяз выключэньня установы і памешканьні, дзе ужываюцца меры і вага, дзеля мэтаў, паказаных у арт. 4.

**16.** Правертчыкі мясцовых праверачных палатаў мераў і вагі, у выпадку выяўленьня нарушэньняў правілаў аб мерах і вазе, узбуджаюць справу аб перасьледваньні у судовым парадку асобаў, нарушыўшых памянёныя правілы, маюць права апячатваць няверныя меры і вагу, складаючы у кожным асобным выпадку акты і накіроўваючы справу у парадку, устаноўленым карна-процэсуальнымі кодэксамі саюзных рэспублік.

**17.** Вышэйшы савет народнае гаспадаркі Саюзу ССР (па галоўнай палаце мераў і вагі) выдае інструкцыі і тэхнічныя правілы аб ужываньню гэтае постановы.

Вышэйшым саветам народнае гаспадаркі саюзных рэспублік (па палатам мераў і вагі) даецца права, у межах гэтага палажэньня, а роўна інструкцыяў і правілаў, памянёных у першай часцы гэтага артыкулу, выдаваць дадатковыя правілы і інструкцыі, абумоўленыя мясцовыкі асаблівасьцямі.

Падзел III.

**Адпаведнасьць за нарушэньне палажэньня і пастановаў аб мерах і вазе.**

**18.** Ніжэйнаступныя злачынствы: а) ужываньне у гандлю, пры промысле, ці хаваньне у гандлёвай ці прамысловай установе мераў і вагі бяз падлягаючага кляйма, або няверных, ці забароненых законнаю пастановаю ўлады да ўжываньня у гандлю наогул, і ў гэтым выглядзе промыслу у паасобнасьці; б) выпуск у зворот мераў і вагі заводамі, фабрыкамі або рамясьнічымі установамі, выробляючымі; раманціруючымі іх для прадажы—да падачы іх да абавязковай праверкі; в) прадажа ці хаваньне дзеля прадажы мераў і вагі без належнага кляйма, або няверных, ці забароненых да ужываньня у гандлю; г) выраб фальшывых клеймаў, прызначаных дзеля кляйменьня мераў і вагі, накладаньне фальшывых клеймаў на меры і вагу для з'іначаньня накладзеных праверачнымі установамі клеймаў; ці накладаньне клеймаў апрача праверачнае установы; д) ужываньне гандляром ці прамыслоўцам дзеля гандлю або промыслу, або ужываньне у гандлю ці промыслу мераў і вагі, на якія заведама накладзена фальшывае кляймо або накладзенае праверачнаю установаю кляймо з'іначана, ці кляймо надкладзена апрача праверачнае установы, а роўна ужываньне гэткіх мераў і вагі якія праверцы не аддаваліся, але маюць клеймы, ўзятыя з іншых вымерных прыбораў; е) збыт гэткіх мераў і вагі у чужыя рукі,—караюцца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік, пры чым у выпадку поўнай няпрыгоднасьці вымерных прыбораў, паказаных у п. 1, гэтага артыкулу, яны адбіраюцца і падлягаюць зьнішчэньню.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 130 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 чэрвеня 1924 г.

## 203. Аб падатковых прывілеях дзеля выдавецтваў і кніжнага гандлю.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Вызволіць ад прамысловага падатку выдавецтвы і кніжны гандаль дзяржаўных і кооперацыўных арганізацыяў, а роўна арганізацыяў профэсыянальных саюзаў, камуністычнай партыі (бальшавікоў) і комуністычнага саюзу моладзі.

**2.** Зьнізіць абкладаньне параўнаўчым зборам прыватнага кніжнага гандлю да 0,75% з звароту дзеля розьнічнага і да 0,5% дзеля оптавага гандлю.

**3.** Даручыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР выдаць інструкцыю аб ужытку гэтае пастановы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 129 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 8 чэрвеня 1924 г.

## 204. Аб тэрміне зьдзейсьненьня часовага палажэньня аб мясцовых грашах.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дзеля з'іначаньня падзелу II Уводнага закону аб мясцовых грашах лічыць тэрмінам зьдзейсьненьня часовага палажэньня аб мясцовых грашах I студзеня 1924 г.

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

6 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 205. Аб аднясеньні на мясцовыя сродкі выдаткаў па найму і утрыманьню памешканьняў мясцовых органаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. У дадатак арт. 24 часовага палажэньня аб мясцовых грашах аднясьці на мясцовыя сродкі выдаткі па найму памяшканьняў дзеля мясцовых органаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня, у тым ліку дзеля этапных пунктаў канвойных войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнана Упраўленьня, па асьвятленьню, даставе вады, асэнізацыі, дробнаму бягучаму рамонту і ачысцы гэтых памешканьняў, а роўна іх двароў, комінаў і стрэх.

2. Гэта пастанова уступае ў моц з I кастрычніка 1924 г.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 139 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.

## 206. Аб устанаўленьні адмысловага мэтавага папуднага збору з грузаў, якія йдуць па Волга-Касьпійскаму каналу.

Цэнтральны Выканаўчы Камітет і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Дзеля пакрыцьця выдаткаў па вытвору неадкладнае дно-паглыбляючае працы на Волга-Касьпійскім канале увясьці з пачатку навігацыі 1924 г. папудны

мэтавы збор з грузаў, якія йдуць па каналу, у наступнай велічыні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| а) з цемных нафтапрадукаў | $3/8$ | з | пуду |
| б) „ сьветлых . наліваm і у тары | 2 | „ | „ |
| в) „ газы „ | 2 | „ | „ |
| г) „ хлебных грузаў | $1/2$ | „ | „ |
| д) „ круп, масла і мукі | 1 | „ | „ |
| е) „ солі | $1/10$ | „ | „ |
| ж) „ рыбы часьцікавай | $1/2$ | „ | „ |
| „ „ чырвонай | 1 | „ | „ |
| з) „ тары для рыбы | 1 | „ | „ |
| і) „ фруктаў | 2 | „ | „ |
| к) „ мануфактуры | 1 | „ | „ |
| л) „ лесу піленага | $1/5$ | „ | „ |
| „ „ круглага | $1/5$ | „ | „ |
| м) „ чугуну | $1/2$ | „ | „ |
| н) „ зялезу, сталі, вырабаў і машын. частак | 1 | „ | „ |
| о) „ будаўнічых матар'ялаў і цэманту | $1/2$ | „ | „ |
| п) „ іншых сухіх грузаў | 1 | „ | „ |

Увава. Грузы, перавожваемыя на дробных параматорных, парусных, буксыруемых суднах, якія маюць асадку ня больш $3^1/_3$ фунтаў, вызваляюцца ад аплаты папудным мэтавым зборам.

2. Спагнаньне паказаных у арт. 1 збораў даручыць акцыянэрнаму таварыству „Каспійскае Параходцтва“.

3. Арганізацыя і парадак спагнаньня збораў рэгулююцца асобнай інструкцыяй цэнтральнага камітэту па партовым справам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 135 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.

---

## 207. Аб вызваленьні ад рэгістрацыі у натарыяльным парадку і ад аплаты гэрбавым зборам утвараемыя ваенным і ваенна марскім ведамствамі і органамі войскаў АДПА у 1923—1924 бюджэтным гаду умоваў на прадметы даставы рабоча-сяянскай чырвонай арміі, флёту і войскаў Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Утвараемыя у 1923—1924 бюджэтным гаду ваенным і ваенна-марскім ведамствамі і органамі Аб'яднанага Дзяржаўнага Палітычнага Упраўленьня з дзяржаўнымі прадпрыёмствамі вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР умовы па ўсе прадметы даставы чырвонай арміі і флёту ад засьведчаньня у натарыяльным парадку і ад аплаты гэрбавым зборам—вызваліць.

2. Усе паказаныя у арт. 1 умовы падлягаюць абавязковай падачы у камітэт ваенных заказаў пры вышэйшым савеце народнае гаспадаркі Саюзу ССР на прадмет рэгістрацыі іх.

3. Гэта пастанова ўступае ў моц з дня агалашэньня яе і пашыраэцца так сама на вышэйпаказаныя умовы, утвораныя да яе выданьня, але не засьведчаныя натарыяльным парадкам і не аплачаныя гэрбавым зборам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 135 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.

---

## 208. Аб умовых вырабу і набыцьця паветраных суднаў і авіяцыйных матораў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Права набываць паветраныя судны і авіяцыйныя маторы належыць: дзяржаўным установам і прадпрыёмствам згодна іх палажэньням і статутам, таварыству сябраў паветранага флёту, расійскаму таварыству самахвотнага паветранага флёту і іншым таварыствам і арганізацыям, якім гэтае права дадзена у концэсійным парадку Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР, і можа быць імі ажыцьцяўляема ня начы, як з дазволу і у парадку, устанаўліваемым упраўленьнем ваенных паветраных сілаў народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам Саюзу ССР.

Увага. Набыцьцё паказаных вышэй прадметаў за кардонам дапушчаецца ня начы, як з захаваньнем агульных законаў аб замежным гандлю.

2. Выраб паветраных суднаў і авіцыйных матораў на абшары Саюзу ССР дазваляецца толькі водлуг рысункаў, зацьверджаных упраўленьнем ваенных паветраных сілаў народнага камісарыяту па ваенным і марскім справам Саюзу ССР.

3. Выраб, прадажа і набыцьцё плянэраў дапушчаецца у парадку асобнай інструкцыі, выдаваемай народным камісарыятам па ваенным і марскім справам Саюзу ССР.

4. Нарушэньне гэтае пастановы караецца, як нарушэньне дзяржаўнай манаполі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 130 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 18 чэрвеня 1924 г.

---

## 209. Аб дачы народнаму камісарыяту шляхаў зносін права аддаваць у дысцыплінарным парадку ўрадавых асобаў транспарту пад арышт на тэрмін да трох месяцаў.

Прызнаючы неабходным, з мэтаю забясьпечаньня бясьпечнасьці руху на шляхах зносін, пашырыць права народнага камісару шляхаў зносін аб прыняцьці мераў дысцыплінарнага уплыву процiў ўрадавых асобаў транспарту за нарушэньне правілаў тэхнічнай эксплёатацыі, унутранага служэбнага распарадку і пра-

цоўнай дысцыпліны, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Даць народнаму камісару шляхаў зносін часова права аддаваць у дысцыплінарным парадку ўрадавых асобаў транспарту за службовыя апушчэньні пад арышт на тэрмін да трох месяцаў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Л. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана № 141 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 23 чэрвеня 1924 г.

---

## 210. Палажэньне (статут) аб цэнтральным выдавецтве народаў Саюзу ССР.

### I. Агульныя палажэньні.

1. З мэтаю дапамогі грамадзянска-палітычнаму і культурнаму разьвіцьцю працоўных усіх нацыянальнасьцяў Саюзу ССР пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР, утвараецца з злучэньня існуючых цэнтральнаго усходняга і заходняга выдавецтваў—дзяржаўнае выдавецтва пад назваю цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР.

**2.** У кола дзейнасьці цэнтральнага выдаветва народаў Саюзу ССР ўходзіць:

а) выпрацоўка выдавецкіх плянаў і праграмаў сваёй працы, выходзячы з культурна-асьветных патрэбаў нацыянальнасьцяў Саюзу ССР;

б) выданьне пэрыодычнай і непэрыодычнай літэратуры, як грамадзянска-палітычнага гэтак і навуковага і навучальнага характару на нацыянальных мовах (газэты, часопісы, кнігі, падручнікі і інш);

в) пашырэньне як сваіх, гэтак і чужых выданьняў.

**3.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР зьяўляецца асобнай гаспадарчай адзінкай дзеючай на пачатках камэрцыйнага разьліку і карыстаецца усімі правамі юрыдычнае асобы (на падставе грамадзянскіх кодэксаў саюзных рэспублік); мае права здабываць і адчужджаць маемасьць, ўступаць у абавязкоўствы шукаць і адказваць на суду.

У паасобнасьці, выдавецтву, дзеля ажыцьцяўленьня яго мэтаў даецца права утвараць рознага роду умовы, крэдытавацца у банках, выдаваць абавязкоўствы вэксалёвыя і іншыя, утвараць рознага роду зьдзелкі, пачынаць бягучыя адмысловыя і іншыя рахункі, атрымоўваць грошы, асігнаваныя ці прысланыя выдавецтву і г. п.

Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР нясець адпаведнасьць па сваім абавязкоўствам у межах ўласнае маемасьці

**4.** Водлуг патрэбы цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР адчыняець на месцах свае аддзяленьні, агэнствы і канторы, якія дзейнічаюць на правох яго прадстаўнікоў.

**5.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР мае пячатку з вобразам свайго найменьня.

### II. Сродкі выдавецтва.

**6.** Цэнтральнае выдавецтва мае капітал—статутны і рэзэр'ўны.

**7.** Статутны капітал цэнтральнага выдавецтва народаў Саюзу ССР вылічаецца у суме дзевяць дзесят шэсьць тысячаў чатырыста семдзесят восем рублёў 96 кап. (96.478 р. 96 к.) залатых рублёў прыстасоўваючыся да маючагася на 1 траўня 1924 году замыкальнага балянсу, з паказам у ім каштоўнасьці аснаўнога і зваротнага капіталаў цэнтральнага усходняга выдавецтва функцыянірующага на падставе дэкрэту УЦВК і СНК ад 14 сьнежня 1922 г., заходняга выдавецтва, дзеючага на падставе дэкрэту УЦВК і СНК ад 29 сакавіка 1923 году.

**8.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР прымае на сябе актыў і пасыў існуючых да гэтага часу цэнтральнага усходняга і заходняга выдавецтваў, згодна уступнага балянсу.

**9.** Фінансіраваньне цэнтральнага выдавецтва народаў Саюзу ССР дзеля далейшага павялічэньня статутнага капіталу робіцца у бюджэтным парадку па заяўкам цэнтральнага выдавецтва і праводзіцца па балянсу выдавецтва па арт. „статутны капітал".

**10.** Дзеля ажыцьцяўленьня дзяржаўна-карысных і неабходных, але дэфіцытных выданьняў, а роўна на утаненьне выданьняў і дарэмнае іх пашырэньне Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і інш. установы адпушчаюць, водлуг патрэбы цэнтральнаму выдавецтву народаў Саюзу ССР адпаведныя субсыдыі.

**11.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР павінна чысты прыбытак, за вылікам адлічэньняў у рэзэр'ўны капітал, зварочваць на утаненьне сваіх выданьняў або на адмыслова культурна-асьветныя патрэбы з зацьверджаньня Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**12.** Велічыня доляў, адлічаемых у рэзэр'ўны капітал, азначаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР. Рэзэр'ўны капітал служыць, як дзеля пакрыцьця стратаў гэтак і дзеля пашырэньня прадпрыёмства.

### III. Органы упраўленьня цэнтральнага выдавецтва народаў Саюзу ССР зьяўляюцца.

а) загадчык выдавецтвам і яго намесьнік,

б) рэвізыйная камісія.

**14.** Загадчык цэнтральным выдавецтвам народаў Саюзу ССР зьяўляецца адпаведнаю асобаю за ўсю дзейнасьць цэнтральнага выдавецтва цалкам.

**15.** У адпаведнасьці з дзеючымі на гэты прадмет законамі, на загадчыка цэнтральным выдавецтвам і яго намесьніка ускладаецца загадваньне усімі бяз выключэньня справамі выдавецтва, паколькі гэтыя справы не аднесены да компэтэнцыі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

У паасобнасьці, на іх ускладаецца:

а) устанаўленьне штатаў цэнтральнага выдавецтва, утварэньне колектыўных і працоўных умоваў, наём і

звальненьне служачых і рабочых і азначэньне велічыні іх узнагроды;

б) распрацоўка гадавых плянаў дзейнасьці выдавецтва;

в) вырашэньне пытаньняў аб адчыненьні мясцовых аддзяленьняў, агэнстваў і конторaў;

г) утварэньне ад імя выдавецтва усякага роду умоваў і зьдзелак, адпавядаючых задачам цэнтральнага выдавецтва;

д) арганізацыя сродкамі выдавецтва, а так сама сумесна з іншымі прадпрыёмствамі і аб'яднаньнямі, прыватнымі асобамі (фізычнымі і юрыдычнымі) і коопэратыўнымі арганізацыямі загатовак разных прадуктаў і ўсякага роду матар'ялаў;

е) рэалізацыя выданьняў усімі спосабамі законаў дазволенымі;

ж) вытворчасьць усіх дазволеных законам гандлёвых і крэдытных (пасыўных) опэрацыяў і удзел у ва ўсякага роду камэрцыйных аб'яднаньнях, зьмешаных акцыянэрных таварыствах і інш., у адпаведнасьці з задачамі выдавецтва і ў межах гаспадарчых патрэбаў,

Увага. Прымаць удзел у зьмешаных акцыянэрных таварыствах цэнтральнае выдавецтва мае права толькі з захаваньнем адмысловых правілаў, устаноўленых дзеля зьмешаных акцыянэрных таварыстваў.

з) утварэньне іншых дзеяў, неабходных для ажыцьцяўленьня мэтаў выдавецтва.

**16.** Уся перапіска па справам выдавецтва, усе вэксалі, даручэньні, умовы і іншыя акты выходзяць ад імя выдавецтва за подпісам загадчыка ці яго намесьніка.

**17.** Дзеля ажыцьцяўленьня сваіх задачаў цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР падзяляеецца на аддзелы:

а) упраўленьне справамі;

б) рэдакцыйны з падзелам на нацсэкцыі і камісіі;

в) тэхнічна-вытворчы (выдавецкі), і

г) галоўная кантора.

Аб'ём дзейнасьці кожнага аддзелу і унутраны распарадак працы устанаўліваецца асобнымі палажэньнямі.

**18.** Для праверкі пэрыодычных справаздачаў і балянсаў, дачы вынікаў па гадавой справаздачы, а таксама для абсьледаваньня агульнага становішча справы і асобных бакоў дзейнасьці цэнтральнага выдавецтва, утвараецца рэвізыйная камісія у складзе трох асобаў, з якіх старшыня і адзін сябра камісіі назначаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, а другі сябра камісіі дэлегіруецца цэнтральным камітэтам саюзу працаўнікоў асьветы.

**19.** Агульная праграма працы цэнтральнага выдавецтва народаў Саюзу ССР на кожны опэрацыйны год азначаецца гадавым плянам, які складаецца выдавецтвам, падаецца у Прызыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і зацьверджаецца апошнім.

**20.** Опэрацыйны год лічыцца з 1 кастрычніку па 30 верасьня.

**21.** Каштарыс прыбыткаў і выдаткаў на кожны опэрацыйны год зацьверджаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**22.** Гадавая справаздача аб дзейнасьці цэнтральнага выдавецтва з задаткам замыкальнага балянсу на апошняе чысло справаздаўнага году, разам з вынікамі рэвізыйнай камісіі і з проэктамі, парадку і спосабаў разьмяркаваньня прыбытку і пакрыцьця стратаў, падаецца не пазьней 1 студзеня адпаведнага году на зацьверджаньне Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**23.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР вызваляецца ад усіх дзяржаўных падаткаў і збораў і ўсіх надбавак на іх якія йдуць на узмацненьне мясцовых сродкаў.

**24.** Цэнтральнае выдавецтва не павінна знаходзіцца сябрам біржы і ўсе біржавыя зьдзелкі, непасрэдна выяўляючыяся з яго выдавецкай дзейнасьці, не падлягаюць абявязковай рэгістрацыі.

## IV. Парадак ліквідаваньня цэнтральнага выдавецтва.

**25.** Цэнтральнае выдавецтва народаў Саюзу ССР ліквідуецца водлуг пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**26.** Ліквідаваньне робіцца асобнаю камісіяй, назначаемай Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**27.** Ліквідацыйная камісія спаганяе па абявязкоўствам дэбэтараў выдавецтва і здавальняе вымаганьня крэдытараў водлуг даўгоў, дзеля чаго можа рэалізаваць маемасьць выдавецтва; рэшта пасьля ліквідаваньня цэнтральнага выдавецтва сродкаў (грашовыя і матар'яльныя) ідуць у загад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

**28.** Палажэньне аб цэнтральным выдавецтве Саюзу ССР мажа з'іначвацца толькі пастановамі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**
13 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 211. Аб зьмяншэньні ліку тыражоў 2-е дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 году.

Дзеля з'іначаньня пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 16 красавіка 1924 году „аб выпуску 2-е дзяржаўнае выйгрышнае пазыкі 1924 г." (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 4, арт. 128), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Выкласьці арт. 7 вышэйназванае пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР—у наступнай рэдакцыі:

„Тыраж выйгрышаў робіцца у працягу 1924—1928 гг. па два разы у год, а у 1929 годзе (за час да 15 сакавіка)—адзін раз. Тэрміны тыражоў, а таксама велічыня падлягаючай розыгрышу у кожны з тыражоў сумы, з разьмяркаваньнем яе на особныя выйгрышы назначаецца народным камісарыятам грашовых спра-

ваў Саюзу ССР, які свачасова абвяшчае аб гэтым дзеля ведама усім.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

20 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 140 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 22 чэрвеня 1924 г.

## 212. Аб звароце у мясцовыя сродкі 50% прыбыткаў, якія йдуць ад здачы у арэнду тарфяных балотаў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Арт. 36 часовага палажэньня аб мясцовых грашах, устанаўліваючы пералік адлічэньняў ад дзяржаўных прыбыткаў у мясцовыя сродкі дапоўніць пунктам „і" наступнага зьместу і „ад эксплёатацыі тарфяных балотаў—велічынею у 50% прыбытковых паступленьняў ад здачы у арэнду памянёных балотаў".

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

20 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 140 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 22 чэрвеня 1924 г.

## 213. Аб зьмене назвы гор. Анено.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зьмяніць назву гор. „Анено" на гор. „Шамхор".

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 140 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 29 чэрвеня 1924 г.

## 214. Аб тэрміне выданьня ведамсьцьвеных інструкцыяў аб ужытку пастановаў Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

У тых выпадках, калі пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ці Савету Народных Камісараў Саюзу ССР на ведамствы ускладаецца выданьне інструкцыяў аб ужытку памянёных пастановаў гэтыя інструкцыі, калі ў пастанове не паказан тэрмін іх выданьня, павінны быць у двухтыднёвы тэрмін з дня агалашэньня пастановы.

У выпадку неабходнасьці дапасаваньня інструкцыі з органамі саюзных рэспублік, тэрмін выданьня інструкцыі працягваецца да 1 месяцу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 146 „Известий„ ЦВК Саюзу ССР ад 29 чэрвеня 1924 г.

## 215. Аб парадку аднаўленьня і пашырэньня бюстаў барэльефаў, малюнкаў, і г. п. з вобразам У. І. Леніна.

У звароце зьявілася вялікая колькасьць бюстаў, барэльефаў, маляўнічых партрэтаў, малюнкаў, фота-мантажу і іншых вобразаў У. І. Ульянова-Леніна, у ва многіх выпадках не маючых з ім амаль ніякае падобнасьці.

Пашырэньне гэткіх вобразаў і ў асаблівасьці выстаўленьне іх у публічных месцах робіць небясьпеку прысваеньня шырокімі коламі насельніцтва перакручанага знадворнага вобразу У. І. Ульянова-Леніна.

З мэтаю недапушчэньня гэтага, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчала Камітэту Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Забараніць размнажэньне, прадажу і выстаўленьне у публічных месцах пералічаных выглядаў вобразаў У. І. Ульянова-Леніна, апрача фатаграфічных, але ня выключаючы фота-мантажу, без адпавядаючага дазволу асобных камісіяў, прадугледжаных ніжэйнаступнымі артыкуламі гэтае пастановы.

**2.** Выдача гэткіх дазволаў ускладаецца на:

а) Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР па увекавечаньню памяці У. І. Ульянава-Леніна.

б) Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту РСФСР па увекавечаньню памяці У. І. Ульянова-Леніна. пры Ленінградзкім савеце рабочых і сялянскіх дэпутатаў.

в) Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Украінскай ССР па увекавечаньню памяці У. І. Ульянова-Леніна.

г) Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ЗСФСР па увекавечаньню памяці У. І. Ульянава-Леніна.

д) Камісію Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР па увекавечаньню памяці У. І. Ульянава-Леніна.

**3.** Паказаныя вышэй дазволы выдаюцца камісіямі на падставе ці непасрэднага агляду вобразаў У. І. Ульянава-Леніна ці агляду, зробленага асобнымі падкамісіямі.

**4.** Усе пералічаныя выгляды вобразаў У. І. Ульянава-Леніна, як пастаўленыя на публічных месцах, гэтак і знаходзячыяся у прадажы, прызнаныя з боку адпаведных камісіяў нездавальняючымі, павінны быць забраны і забаронены да публічнага пашырэньня.

**5.** Усе арыгіналы зацьверджаныя камісіямі да пашырэньня вобразаў Уладзіміра Ільліча павінны перадавацца на зьбераганьне інстытуту Леніна.

**6.** Цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных рэспублік утвараюць камісіі па увекавечаньню памяці У. І. Ульянова-Леніна, згодна п. 2 гэтае пастановы.

**7.** Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ускладаецца на органы саюзных рэспублік.

**8.** Асобы, віноўныя у нарушэньні гэтае пастановы падлягаюць прыцягваньню да карнае адпаведнасьці.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

27 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 146 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 29 чэрвеня 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Народных Камісарау

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**216.** **Аб забароне спагнаньня платы за дадатковыя тэлефоны.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:** Забараніць спагнаньне платы за дадатковыя тэлефонныя апараты, належачыя установам, знаходзячымся на дзяржаўным бюджэце, і ўсерасійскаму цэнтральнаму савету профэсыянальных саюзаў, у выпадках, калі адпавядаючыя камутатары, дадатковыя апараты і ўнутраная сетка належаць гэтым установам і абслугоўваюцца іх сіламі і сродкамі.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Союзу РРР* **Н. Гарбуноў.**
8 траўня 1924 г. Масква – Крэмль.
Агалошана у № 119 „Известий“ ЦВК Саюзу ССС ад 27 траўня 1924 г.

---

**217.** **Аб допушчэньні у навігацыю 1924 г. бязмытнага, безакцызнага і бязліцэнцыйнага прывозу з-за кардону на рыбныя промыслы Далёкага Усходу прадмэтаў знараджэньня.**

У адмену пастановы СПА РСФСР ад 8 чэрвеня 1923 г. аб зацьверджаньні сьпісу мытных пунктаў, праз якія дазваляецца бязмытны прывоз на рыбныя промыслы Далёкага Усходу прадмэтаў прамысловага знараджэньня, харчаваньня і адзежы (Зб. Зак. РСФСР--1923 г., № 53, арт. 528), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дапусьціць у навігацыю 1924 г, бязмытны, безакцызны і бязліцэнцыйны прывоз з-за кардону на рыбныя промыслы Далёкага Усходу прадмэтаў прамысловага знараджэньня, харчаваньня і адзежы, водлуг сьпісаў і нормаў, устанаўліваемых мытна-тарыфным камітэтам і згодна выдаваемай ім інструкцыі.

2. Абавязаць мясцовыя дзяржаўныя органы, ведаючыя рыбалоўствам, прыняць усе меры да скарыстаньня гэтае прывілеі пераважна мясцовымі рабочымі арцелямі, рыбалоўнымі таварыствамі і коопэратыўнымі арганізацыямі.

3. Абавязаць народны камісарыят замежнага гандлю па закончаньні навігацыі 1924 г. падаць даклад аб выніках ажыцьцяўленьня гэтае пастановы.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**218.** **Аб зьняцьці і зьніжэньні некаторых збораў з экспартыруемых хлебных прадуктаў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:** Вытлумачыць, што зьняцьце і зьніжэньне некаторых збораў з эксцортыруемых за кардон хлебных прадуктаў, установленае пастановаю Цэнтральнага Выканаучага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 10 кастрычніка 1923 г., (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 7, арт. 198) з з'іначаньнямі ад 22 лютага 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 64), пашыраецца на ўсе экпортыруемыя хлебафуражныя і алейныя прадукты як у сырым, гэтак і ў апрацаваным выглядзе, а гэтак сама на астаткі ад іх перапрацоўкі (вотрубі, жмыхі і інш.).

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Горбуноў.**
15 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 119 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 27 траўня 1924 г.

---

**219.** **Аб з'іначаньні статуту чыгунак.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:** Занясьці ніжэйнаступныя з'іначаньні і дадаткі у дзеючы статут чыгунак (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 38, арт. 445):

1. У арт. 3 і п. 6 арт. 4 статуту замяніць 48-гадзінны тэрмін—24 гадзінным тэрмінам.

2. Арт. 36 статуту чыгунак выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„Арт. 36. Прыём грузаў да адпраўкі (арт. 3) робіцца у парадку паступовасьці прывозу грузаў на станцыю і згодна правілам чарговасьці адпраўкі грузаў, зацьверджаемым цэнтральным камітэтам па перавозкам.

Нормы прыёму грузаў да адпраўкі азначаюцца пэрыодычна упраўленьнямі дарогаў“.

3. Апошні новы радок арт. 37 статуту чыгунак выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„Велічыня платы за зьбераганьне, а роўна і іншых збораў, вызываемых вытворчасьцю складочнае опэрацыі, зацьверджаецца у парадку, устаноўленым дзеля зацьверджаньня тарыфаў чыгунак. Плата за зьбераганьне прынятага на падставе п. „б“ арт. 3 статуту чыгунак грузу вылічаецца за сапраўдны тэрмін зьбераганьня з выключэньнем аднаго дня зьбераганьня.“

4. Арт. 53 статуту чыгунак дапоўніць наступнаю увагаю:

У в а г а. Цэнтральному камітэту па перавозкам даецца выдаваць „Правілы аб выдачы дублікату накладной у якасьці дакументу, пасьведчаючага прынядьце грузу да перавозкі з папяраджаючым зьбераганьнем у тых выпадках, калі груз здаецца з паказаньнем станцыі назначэньня, з тым, каб у выдаваемых пры гэтым дублікатах накладных рабіўся знак аб прыёме грузу на папяраджаючае зьбераганьне.

Умова перавозкі па гэткім грузам лічыцца зробленаю па наступленьні чаргі прыёму да адпраўкі і пасьведчаецца накладаньнем на накладной штэмпэлю станцыі адпраўкі, з паказаньнем дню, месяцу і году яго накладаньня“.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
13 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

220. **Тарыф дзеля тавараў пэрсідзкага пахаджэньня, прывожваемых праз пэрсідзкую граніцу.**

| Арт. тарыфу. | НАЙМЕНЬНЕ ТАРЫФУ. | Мера і вага | Мыта. Рублі. | Мыта. Кап. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Хлеб усякага р ду зярном, апрача рысу, бульба, гарох і боб | бяз | мыт | на |
| 2 | Рыс: | | | |
| | 1) абробляны | 100 кг. | — | 90 |
| | 2) паўабробляны ці ня маючы больш надворнае шалухі, але зьбярагаючы яшчэ унутраную абалонку | 100 „ | — | 42 |
| | 3) неабраб яны, маючы надворную шалуху | 100 „ | — | 30 |
| 3 | Гароднiна простая, асобна непрыгатаван я, цыбуля, часнок | бяз | мыт | на |
| 4 | Садовіна і ягады: | | | |
| | 1) грэцкія і іншыя арэхі усякага гатунку асобна неназваныя, ядра пэрсікавыя і абрыкосавыя, зярняты тыквы ачышчаныя, каштаны і какосавыя арэхі | 100 кг. | 1 | 52 |
| | 2) міндаль і фісташкі са шкарлюпою і бяз яе | 100 „ | 2 | 44 |
| | 3) садовіна і ягады іншыя, сьвежыя або сушаныя ўсякага роду | 100 „ | 1 | 52 |
| 5 | Со і з садовіны і ягадныя бяз цукру і прымешкі алькаголю | 100 кг. бр. | 1 | 52 |
| 6 | Сыры | 100 кг. | 6 | 10 |
| 7 | Яйца птушыныя | с сотні | — | 5 |
| 8 | Жывёла жывая: | | | |
| | 1) аслы | з гала ы | 1 | 80 |
| | 2) коні і жарабцы | „ | 5 | 40 |
| | 3) вярблюды | „ | 9 | 40 |
| | 4) мулы | „ | 7 | 20 |
| | 5) буйная рагатая жывёла (быкі, каровы і інш.) | „ | 1 | 80 |
| | 6) дробная рагатая жывёла (б раны, авечкі, козы і інш.) | „ | — | 18 |
| | 7) жывёла жывая, асобна неназваная | з цаны | 10% | — |
| 9 | Усякага роду рогі і капыты, часткі жывёлы, у тым ліку кішкі, прадукты жывёлы, ужываемыя у мэдыцыне і асобна неназваныя у расейскім агульным мытным тарыфе | бяз | мыт | на |
| 10 | Тлустасьць з жывёлы, асобна неназваная | 100 кг. | 1 | 80 |
| 11 | Скуры нявырабляныя ці скуры, за выключэньнем мягкое рухлядзі: | | | |
| | 1) сухія ці сухасалёныя | 100 „ | 3 | 60 |
| | 2) мокрасалёныя | 100 „ | 1 | 80 |
| 12 | Скуры вырабляныя: | | | |
| | 1) скуры дублёныя квасцаваныя, замшавыя, сырамятныя, малыя і вялікія, за выключэньнем сафьяну, лайкі, шавро і шагрэні | 100 „ | 4 | 88 |
| | 2) сафьян | 100 „ | 6 | 70 |
| | 3) мягкая рухлядзь, усякага роду, асобна неназваная у расейскім агульным мытным тарыфе | 100 „ | 14 | — |
| 13 | Дрэва простых пародаў: у бярвеньнях кругляках, жэрдях і плахах, у абчэсаных ці расьпіленых брусах звыш 90 м м. таўшчынею, у дошках і брусах тоўшч. звыш 6,5 м/м. да 90 м/м уключна, няструганых, дрэва для апалу, фашыны, хворост | бяз | мыт | на |
| 14 | Сена у ва ўсякім выглядзе і салома неачышчаная | бяз | мыт | на |
| 15 | Часткі расьлінаў у іх натуральным стано\'ішчы і насеньне, асобна неназ\'аныя, у тым ліку кунжут | бяз | мыт | на |
| 16 | Рагожы і кулі вырабляныя з расьлінных, непрадзільных матэр'яў | бяз | мыт | на |

| Арт. тарыфу. | НАЙМЕНЬНЕ ТАРЫФУ. | Мера і вага. | Мыта. Рублі. | Мыта. Кап. |
|---|---|---|---|---|
| 17 | Дыямэнты і паўдыямэнты натуральныя ці штучныя у неабробляным выглядзе ці шліфаваныя, земчуг сапраўдны або штучны, каралі сапраўдныя ці штучныя, але не ў справе | 1 кг. | 4 | 88 |
| 18 | Вугаль дравяны | бяз | мыт | на |
| 19 | Смолы камедзістыя і мінэральныя усякага роду, асобна неназваныя у расейскім агульным мытным тарыфе | 100 кг. | 3 | 60 |
| 20 | Баўна сырэц, баўнянапаперовыя канцы і ачосы кардныя | 100 „ | 2 | 44 |
| 21 | Лен і пянька, чэсаныя ці нячэсаныя, льняныя і пяньковыя ачоскі | бяз | мыт | но |
| 22 | Шэрсьць і пуша нячэсаная, непрадзеная, брудная ці мытая, нефарбаваная, ачоскі шэрсьцяныя нефарбаваныя | 100 кг. | 1 | 80 |
| 23 | Баўнянапаперовыя тканіны суравыя, беленыя, фарбаваныя, каляровыя, з малюнкамі, набіўныя, у тым ліку аксаміт і плюш баўнянапаперовыя, пэрсідзкага пахаджэньня, засьведчанага гандлпрэдам Саюзу ССР ў Пэрсіі | 1 „ | — | 92 |
| 24 | Тканіны шаўковыя, пэрсідзкага пахаджэньня, пасьведчанага гандлпрэдам Саюзу ССР ў Пэрсіі: | | | |
| | 1) тканіны чыста шаўковыя, затканыя мішурой ці серабром залочанымі або не залочанымі, роўна як чыста-шаўковы аксаміт і плюш | 1 „ | 3 | — |
| | 2) тканіны чыста-шаўковыя усе іншыя, у тым ліку тканіны з бур-дэ суа і шаўковага бурату | 1 „ | 1 | 80 |
| | Увага. Тканіны, утрымліваючыя у агульнай складнасьці ніцяў асновы і утоку больш 90% чыста-шаўковых ніцяў, лічуцца чыста-шаўковымі. | | | |
| | 3) тканіны з шоўку, зьмешанага з папераю ці з іншымі расьлінными валокнамі, маючымі ці аснову ці уток чыста-шаўковыя | 1 „ | — | 92 |
| 25 | Тканіны шэрсьцяныя усякага роду, у тым лікі тканіны, прыгатоўленыя, з козьлага пуху, з вігоневай і вярблюжай шэрсьці, коўдры байкавыя (з грубой шэрсьці), шэрсьцяныя папоны для коняў, вайлаковыя капакі, флахтух і паскі бяз прымешкі шоўку, пэрсідзкага пахаджэньня, пасьведчанага гандлпрэдам Саюзу ССР у Пэрсіі | 1 „ | — | 44 |
| | Увага Агульная дзеля ўсіх памянёных тканін пэрсідзкага пахаджэньня, пасьведчанага гандлпрэдам Саюзу ССР у Пэрсіі: Тканіны шэрсьцяныя ці з расьлінных валакон, з прымешкаю шоўку, мішуры ці серабра, а так сама вышытыя або затканыя шоўкам, мішурой ці серабром залочанымі ці не залочанымі, аплачваюцца мытаю водлуг гатунку тканіны з надбаўкаю у 20%. Тканіны з шэрсьці ці расьлінных валакон вышытыя або затканыя шэрсьцю ці расьліннымі валокнамі, аплачваюцца мытаю водлуг гатунку тканіны з надбаўкаю 10%. | | | |
| 26 | Лямец просты і вырабы з яго асобна неназваныя фарбаваныя ці нефарбаваныя | 100 „ | 3 | — |
| 27 | Вязаныя вырабы шэрсьцяныя баўняна-папяровыя і з іншых валакністых матар'ялаў, але бяз прымешкі шоўку, ручной работы, пэрсідзкага пахаджэньня, пасьведчанага Гандлпрэдам Саюзу ССР у Пэрсіі | 100 „ | 9 | 10 |
| 28 | Дываны шэрсьцяныя усякага роду, пэрсідзкага пахаджэньня, пасьведчанага гандлпрэдам Саюзу ССР у Пэрсіі | 100 „ | 24 | 40 |
| 29 | Усе неназваныя у гэтым тарыфе тавары пэрсідзкага пахаджэньня, прывожваемыя праз пэрсідзкую граніцу, аплачваюцца мытаю па дзеючаму тарыфу па азіяцкаму гандлю | — | — | — |

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

19 траўня 1924 г. Масква—Крэмль. *Кіраўнік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

**221.** **Аб забароне прызозу з за кардону расейскай сярэбранай манэты царскае чэканкі.**

Дзеля з'іначаньня арт. 2 пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 23 кастрычніка 1923 г. „аб прывозе з-за кардону замежнае валюты і расейскай залатой і сярэбранае манэты дарэвалюцыйнага узору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 8, арт. 240), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе**:

Прывоз з-за кардону у межы Саюзу ССР расейскай сярэбнай манэты царскае чэканкі—забараніць.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справакі СНК Союзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

19 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 128 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 7 чэрвеня 1924 г.

---

**222.** **Аб дачы чырвонаармейцам і чырвонафлётцам права дарэмнае перасылкі лістаў.**

З мэтаю устанаўленьня больш шчыльнай сувязі чырвоных арміі і флёту з насельніцтвам, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, у адмену пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР ад 6 ліпеня 1922 году аб дарэмнай перасылцы лістаў чырвонаармейцаў і чырвонафлётцаў ня больш двух у месяц **пастанаўляе**:

1. Даць кожнаму чырвонаармейцу і чырвонафлётцу—права дарэмна перасылаць па почце штомесячна тры простых зачыненых лісты вагою ня звыш 20 грамаў ці тры пачтовых карткі.

2. Парадак ужываньня гэтае пастановы азначаецца інструкцыяй, выдаваемай народным камісарыясам почт і тэлеграфаў, водлуг згоды, з народным камісарыятам па ваенным і марскім справам.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

19 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 128 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 7 чэрвеня 1924 г.

---

**223.** **Аб устанаўленьні для дзіцячых установаў МАНА, выезжаючых на лета на дачы, прывілейнага чыгуначнага тарыфу.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе**:

1. Устанавіць з 1 чэрвеня па 1 кастрычніка 1924 г. для дзіцячых установаў МАНА, выезжаючых на лета на дачы, прывілейны чыгуначны тарыф велічынёю у 50% дзеючага агульнага тарыфу, пры чым перавозка робіцца у адмысловых дачных цягніках.

2. Пашырыць паказаны у арт. 1 прывілейны тарыф на правоз па чыгункам маемасьці, неабходнае дзеля абсталяваньня дзіцячых калоніяў, накіроўваемае багажом.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Союзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

30 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 124 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 чэрвеня 1924 г.

---

**224.** **Аб дачы студэнтам, зволеным з ВУЗ'аў камісіямі па праверцы акадэмічнае пасьпешнасьці, права дарэмнага праезду па чыгункам.**

З мэтаю дачы студэнтам, зволеным з ВУЗ'аў камісіямі па праверцы акадэмічнае пасьпяховасьці, магчымасьці выехаць на месца іх сталага жыхарства ці іншае выбранае імі месца жыхарства, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе**:

1. Даць да 1 ліпеня 1924 году студэнтам, зволеным з ВУЗ'аў камісіямі па праверцы акадэмінае пасьпяховасьці, права адзін раз дарэмна праехаць па чыгункам з месца знаходжаньня ВУЗ'у да выбранага выезжаючаю асобаю пункту.

2. Парадак ужываньня гэтае пастановы устанаўліваецца народным камісарыятам асьветы РСФСР.

*Старшыня СНК Союзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

30 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 123 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 31 траўня 1924 г.

---

**225.** **Аб бязмытным і безакцызным пропуску прамысловага знараджэньня дзеля мурманскіх рыбалоўных і зьверабойных промыслаў у працягу 1924 году.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе**:

Дапусьціць ў 1924 году бязмытны і безакцызны прывоз з-за кардону праз порт Мурманск дзеля рыба зьвярыных промыслаў Мурманскага краю, зьмешчаных па Паўночнаму-Ледавітаму акеяну ад фінскае граніцы да Сьвятога Носу і ў Кольскай затоцы, прадмэтаў прамысловага знараджэньня па сьпісам і нормам, устанаўліваемым мытна-тарыфным камітэтам і згодна выдаваемай ім інструкцыі.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

30 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**226.** **Аб забароне дзяржорганам, грамадзянскім і прыватным установам і прадпрыёмствам і прыватным асобам карыстацца календарнымі штэмпэлямі узору, ужываемага у установах пачтова-тэлеграфнага ведамству.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе**:

1. Забараніць дзяржаўным органам (апрача падлягаючых установаў народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў), грамадзянскім і прыватным установам і прадпрыёмствам і прыватным асобам карыстацца календарнымі штэмпэлямі узору, ужываемага у установах пачтоватэлеграфнача ведамству, дзеля накладаньня на пачтовыя адпраўкі.

2. Нарушэньне гэтае пастановы караецца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

3 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 135 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.

---

## 227. Аб радыё-установках на вазёрных і рачных гандлёвых суднах, плаваючых пад сьцягам Саюзу ССР.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Усе пасажырскія і тавара-пасажырскія судны вазёрнага гандлёвага флёту, плаваючыя пад сьцягам Саюзу ССР і утвараючыя рэйсы па Аральскому мору, Ладожскаму, Анежскаму і Байкальскаму вазёрам, а так сама усе пасажырскія і тавара-пасажырскія судны рачнога флёту, утвараючыя далёкія рэйсы у месцы з малой колькасьцю насельніцтва да вусьця рэкаў Обі, Енісэю і Лены, павінны мець прыёмна-перадаючыя радыётэлеграфныя апараты моцнасьці, хапаючай дзеля падтрыманьня сувязі з маючыміся у раёнах іх плаваньня сухапутнымі радыё станцыямі.

**2.** Радыё - станцыі суднаў, паказаных у арт 1 гэтае пастановы, у час плаваньня нясуць сухавы нагляд у працягу згадзьзя зарэгістыраваных гадзіньнікаў.

**3.** Радыё - абсталяваньне вазёрных суднаў, плаваючых па Ладажскаму і Анежскаму вазёрам павінна быць зроблена у працягу 3-х гадоў з дня агалашэньня гэтае пастановы.

Радыё-абсталяваньне суднаў, плаваючых па Аральскаму мору, Байкальскаму возеру і сібірскім рэкам, павінна быць зроблена у працягу 2-х гадоў з часу адчыненьня дзеяў берагавых радыё - станцыяў у раёне плаваньня адпаведных суднаў, пры чым веды аб адчыненых берагавых радыё - станцыях павінны быць абвешчаны народным камісарыятам шляхаў зносін устаноўленым парадкам дзеля агульнага ведама.

**4.** Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы і выданьне інструкцыяў аб ужытку яе ускладаецца на народны камісарыят шляхаў зносін.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 228. Аб парадку выпуску марак з дабрачыннымі і іншымі мэтамі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Выпуск у зварот марак з дабрачыннымі і іншымі мэтамі дапушчаецца ня начы як з дазволу народнага камісару грашовых справаў Саюзу ССР.

**2.** Нарушэньне парадку, паказанага у арт. 1 гэтае пастановы, караецца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў саюзных рэспублік.

**3.** Гэта пастанова не пашыраецца на выпуск народным камісарыятам почт і тэлеграфаў марак дзеля аплаты пачтовых адправак.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 229. Аб з'іначаньні арт. 27 пастановы СНК Саюзу ССР ад 21 жніўня 1923 г. аб парадку складаньня і разгляданьня грашовых каштарысаў і росьпісаў дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў на 1923—1924 бюджэтны год.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Арт. 27 пастановы СНК Саюзу ССР ад 21 жніўня 1923 г. „аб парадку складаньня і разгляданьня грашовых каштарысаў і росьпісаў дзяржаўных прыбыткаў і выдаткаў на 1923—1924 бюджэтны год“ (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 13, арт. 358),—чытаць у наступнай рэдакцыі:

„Вышэйшы савет народнае гаспадаркі Саюзу ССР падае у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР зводны бюджэт прамысловасьці, знаходзячайся у непасрэдным веданьні вышэйшага савету народнае гаспадаркі Саюзу ССР, а так сама вытворча - тэхнічныя праграмы і грашовы плян па кожнай галіне прамысловасьці у паасобнасьці. Грашовы плян павінен утрымліваць: а) гадавы прыбыткова-выдатковы каштарыс, б) пакзартальны расклад прыбыткаў і выдаткаў, в) намеры аб рэалізацыі прадукцыі, г) намеры аб спосабах крэдытаваньня. Паказаны зводны бюджэт дзяржаўнае прамысловасьці павінен служыць дадаткам да агульнага дзяржаўнага бюджэту.

Увага. Па прамысловасьці, знаходзячайся у непасрэдным веданьні саюзных рэспублік, вышэйшыя саветы народнае гаспадаркі саюзных рэспублік падаюць паказаныя у гэтым артыкуле зводныя бюджэты у народныя камісарыяты грашовых справаў саюзных рэспублік“.

**2.** Гэтай пастанове прыдаць зваротную моц з часу уступленьня ў моц пастановы СНК Саюзу ССР ад 21 жніўня 1923 году.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 230. Аб звальненьні ад платы акцызам навуковых і навучальных падручнікаў прапушчаемых бязмытна у адрас навуковых установаў і вышэйшых установаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**
Навуковыя установы і вышэйшыя вучэбныя установы, маючыя на падставе дзеючых законаў, права бязмытнага атрыманьня з-за кардону навуковых і вучэбных падручнікаў, вызваляюцца ад аплаты іх акцызам, устаноўленых дзеля адпаведных прадмэтаў.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

## 231. Аб парадку аплаты праезду студэнтаў ВУЗ'аў і слухачоў рабфакаў, камандыруемых на практыку.

У дадатак да арт. 4 пастановы СНК Саюзу ССР ад 19 траўня 1924 году, аб адмене і з'іначаньні некаторых прывілейных праездных тарыфаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 5, арт. 186), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Ускласьці аплату праезду студэнтаў ВУЗ'аў і слухачоў рабфакаў, камандыруемых на практыку у установы і прадпрыёмствы, як агульнасаюзныя, гэтак і рэспубліканскія і мясцовыя, на памянёныя установы і прадпрыёмствы.

**2.** Дзеля выдачы авансаў на праезд да месца практыкі студэнтам ВУЗ'аў і слухачам рабфакаў, каманды-

руемым на практыку, з сродкаў казны адпушчаецца народнаму камісарыяту працы Саюзу ССР неабходная сума велічынёю, азначаемаю СПА, з тым, што народны камісарыят працы павінен зьвярнуць паказаную суму не пазьней 1 верасьня 1924 г.

**3.** Народны камісарыят працы Саюзу ССР разьмяркоўвае адпушчаемую у парадку арт. 2 суму паміж ВУЗ'амі і рабфакамі, на якія ускладаецца выдача авансаў практыкантам на праезд да месца практыкі.

**4.** Парадак разьмяркаваньня памянёнае у арт. 2 сумы, а роўна парадак узьмяшчэньня народнаму камісарыяту працы Саюзу ССР установамі і прадпрыёмствамі атрыманых практыкантамі авансаў на праезд да месца практыкі, азначаецца інстурукцыяй, выдаваемай народным камісарыятам працы Саюзу ССР водлуг згоды з народным камісарыятам грашовых справаў і вышэйшым саветам народнае гаспадаркі Саюзу ССР у трохдзённы тэрмін з дня агалашэньня гэтае пастановы.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
9 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 232. Аб прывілеях па прывозу і вывазу тавараў на Куяндзінскі кірмаш.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дазволіць на час з 1 чэрвеня па 15 ліпеня 1924 г. бязмытны і вольны (без абавязковае выбаркі ліцэнцыйных пасьведчаньняў народнага камісарыяту замежнага гандлю) прывоз на Куяндзінскі кірмаш (урочышча Куянды, Каракалінскага павету, Семіпалацінскае краіны) з межаў Заходняга Кітаю праз мытныя установы Бахцінскага і Зайсанскага раёнаў наступных тавараў:

а) жывая буйная і дробная рагатая жывёла,
б) коні,
в) шэрсьць усякая,
г) скуры нявырабляныя,
д) шчаціна ня ў справе,
е) конскі волас ня ў справе,
ж) кішкі і кіньдзюкі ад жывёлы,
з) рогі і капыты.

**2.** Дапусьціць на час з 15 чэрвеня па 1 жніўня вольны (бязліцэнцыйны) вываз з межы Заходняга Кітаю праз мытныя установы Бахцінскага і Зайсанскага раёнаў закупленых на Куяндзінскім кірмашы тавараў расейскага пахаджэньня па пасьведчаньням кірмашнага камітэту.

**3.** Дапусьціць на час з 15 ліпеня па 1 жніўня звароты праз памянёныя мытныя вучасткі бязмытны і вольны (бязліцэнцыйны) вываз тых з прывезеных тавараў, якія ня будуць прáданы на кірмашу.

**4.** Дзейнасьць прывілеяў, прадугледжаных п.п. 1 і 3, на ўвесь час кірмашу пашыраецца і на пагранічную лінію РСФСР з Манголіяй і Уранхаем.

**5.** Гэту пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Старшыня СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
10 чэрвеня 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 135 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 10 чэрвеня 1924 г.

---

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

## 233. Аб дазволе вывазу праз Харгоскую мытніцу абкладзеных акцызам тавараў.

На падставе пастановы УЦВК і СНК РСФСР ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспарту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 60), Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

Дазволіць вываз праз Харгоскую мытніцу 2 разрады абкладзеных акцызам тавараў з пашырэньнем на іх прывілеяў, прадугледжаных арт. 1 пастановы УЦВК і СНК РСФСР ад 11 студзеня 1923 г.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
11 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 234. Аб пятым выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму у сорак мільёнаў залатых рублёў.

З мэтаю здавальненьня патрэбы звароту у абмене чырвонцаў на казначэйскую валюту і з прычыны неабходнасьці выкупу савецкіх грашовых знакаў, ня выражаных у цьвёрдай валюце, на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 5 лютага 1924 г. аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 28) і ў дадатак да пастановаў СПА аб выпуску дзяржаўных казначэйскіх білетаў ад 5 лютага, 22 лютага, 21 сакавіка і 9 красавіка 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 2, арт. 58, № 3, арт. 102, № 4, арт.арт. 150 і 157), Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

Дазволіць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР пяты выпуск дзяржаўных казначэйскіх білетаў на суму у 40 000.000 (сорак мільёнаў) залатых рублёў, уключаючы у гэту суму згодна арт. 4 дэкрэту ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 22 лютага 1924 г. „аб чаканцы і выпуску у зварот сярэбранае манэты савецкага узору (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г., № 3, арт. 61), так сама і выпуск памянёнае манэты ці замяняючых яе бонаў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменаў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
25 красавіка 1924 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 135 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 траўня 1924 г.

---

**235.** **Аб ліквідаваньні камісіі пры СПА па азначэньню каштоўнасьці бюджэтнага набору.**

З прычыны законачаньня працы мясцовых камісіяў па азначэньню каштоўнасьці бюджэтнага набору, Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

Камісію пры Савеце Працы і Абароны па азначэньню каштоўнасьці бюджэтнага набору, утвораную пастановаю СПА ад 11 сакавіка 1924 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 4, арт. 144)—ліквідаваць.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
16 траўня 1924 г. Масква - Крэмль.
Агалошана у № 122 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 30 траўня 1924 г.

---

**236.** **Аб звароце мытаў пры вывазе закардон парфюмэрных і касмэтычных вырабаў.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК РСФСР ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах да дапомогі экспарту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 3, арт. 60), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Пры вывазе за кардон парфюмэрных і косметычных вырабаў, выробляных на абшары Саюзу ССР, робіцца зварот мытаў, выплачаных за ужываныя дзеля вытвору гэтых вырабаў матар'ялы, у наступнай велічыні па разьліку са 100 кілёграмаў вывожваемых вырабаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Пры вывазе | адэколёну . . . . . . . | 21 р. | 15 к. |
| 2) „ „ | пахаў, пахнючых водаў . | 39 „ | 80 „ |
| 3) „ „ | мыла дзеля твару . . . | 14 „ | 75 „ |
| 4) „ „ | пудры . . . . . . . . . | 7 „ | 85 „ |
| 5) „ „ | зубнога парашку . . . | 2 „ | 50 „ |
| 6) „ „ | ррмянаў, беленаў і інш. касмэтыкі . . . . . . . | 37 „ | 05 „ |

**2.** Вываз закардон парфумэрных і косметычных вырабаў з паказанай у арт. 1 прывілеяй дазваляецца праз усе мытніцы, праз якія дапушчаецца вываз тавараў з зьняцьцем акцызу.

**3.** Паказаны у арт. 1 зварот мытаў робіцца праз выдачу асобных квіткоў, якія прымаюнца у залік дзеля выплаты мытаў за прывожваемыя з-за кардону тавары, паказаныя у арт.арт. 4, 51, 52, 94 (п. 2), 115, 117, 119 (п.п. 4 і 4), 125 131, 135 і 177 мытнага тарыфу дзеля прывазных тавараў па эўрапэйскаму гандлю, зацьверджанага СНК Саюзу ССР 8 студзеня 1924 г.

**4.** Тэрмін зьдзейсьненьня гэтае пастановы азначаецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
16 траўня 1924 г., Масква—Крэмль.
Агалошана у № 70 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 26 чэрвеня 1924 г.

---

**237.** **Аб перадачы мясахладабойні народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР у веданьне народнага камісарыяту унутранага гандлю Саюзу ССР.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 9 траўня 1924 г. аб ліквідаваньні народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1924 г. № 5, арт. 163), Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

**1.** Перадаць народнаму камісарыяту па ўнутранаму гандлю Саюзу ССР знаходзячаяся у веданьні народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР аб'яднаньне мясазагатоўчых, халадзільна - боенскіх, консэр'ўных і падсобных да іх прадпрыёмстваў (мясахладабойню) са ўсім яго актывам і пасывам.

**2.** Даручыць народнаму камісарыяту па унутранаму гандлю Саюзу ССР падаць у двухтыднёвы тэрмін з дня агалашэньня гэтага праз СПА Саюзу ССР, пералік мясазаготоўчых, халадзільна - боенскіх, консэрўных і падсобных да іх прадпрыёмстваў агульнасаюзнага значаньня, якія павінны знаходзіцца у непасрэдным веданьні народнага камісарыяту па унутранаму гандлю Саюзу ССР.

**3.** Даручыць народнаму камісарыяту па унутранаму ганалю Саюзу ССР распрацаваць і падаць на зацьверджаньне СПА Саюзу ССР у месячны з дня агалашэньня гэтага тэрмін і а) палажэньне аб парадку ліквідаваньня ўзаемных правоў і абавязкаў паміж мясахладабойняй і іншымі установамі і прадпрыемствамі, ўваходзячымі у склад народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР і б) статут мясахладабойні народнага камісарыяту па унутранаму гандлю Саюзу ССР.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
17 траўня 1924 г. Масква - Крэмль.
Агалошана у 124 № „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 1 чэрвеня 1924 г.

---

**238.** **Аб з'іначаньні пастановы СПА ад 9 жніўня 1923 г. аб звароце мытаў пры вывазе закардон тэкстыльных і гумалястаўных вырабаў.**

Дзеля з'іначаньня пастановы СПА от 9 жніўня 1923 году аб звароце мытаў пры вывазе закардон тэкстыльных і гумалястаўых вырабаў (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 6, арт. 171) Савет Працы і Абароны **пастанаўляе:**

**1.** Дададзеную да арт. 2 вышэйпамянёнае пастановы СПА таблю звароту мытаў пры вывазе за кардон тэкстыльных і гумалястаўых вырабаў замяніць пры гэтым дадаваемаю новаю таблю.

**2.** Пункты 1 і 4 артыкулу 3 тэй жа пастановы выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„**1**) Квіткі, выдаваемыя пры вывазе баўняна папяровых, льняных, пяньковых і джутавых вырабаў (арт.арт. 1—3 таблі), для выплаты мытаў за прывожваемыя з-за кардону тавары паказаныя у арт.арт. 105 п.п. 2—4), 107 (п. 1), 124 (п. 2) 125, 127, 129, 130, 134, 135, 167 і 179 мытнага тарыфу па эўрапэйскаму гандлю для прывожваемых тавараў, зацьверджанага СНК Саюзу ССР 8 студзеня 1924 г.

„**4**) Квіткі, выдаваемыя пры вывазе гумалястаўых вырабаў (арт. 6 таблі) для выплаты мытаў за прывожваемыя з-за кардону тавары, паказаныя у арт.арт. 88 (п. 1 і 2), 91, 94 (п. 2), 117 (п. 1), 131, 132 (п. 2), 167, 187, 188, 189, 198, 199 і 205 (п. 1 літ. б) памянёнага вышэй тарыфу".

**3.** Гэта пастанова ўступае ў моц з дня агалашэньня яе.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
17 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

## ТАБЛЯ

**звароту мытаў пры вывазе закардон тэкстыльных і гумаляставых вырабаў**

(у залатым вылічэньні).

| №№ арт. арт. па чарзе. | Найменьне вырабаў, пры вывазе якіх закардон робіцца зварот мытаў. | Стаўка зварочваемых мтаў са 100 кілёграмаў. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| | **1. Баунянапапяровыя вырабы, хоць-бы з прымешкаю іншых валакністых матер'ялау:** | | |
| 1 | Пража суровая і беленая | 10 | 55 |
| 2 | Пража фарбаваная і набіўная, апрача афарбаванае у адрыянопальскі чырваны колер | 20 | 15 |
| 3 | Пража афарбаваная у адрыянопальскі чырвоны колер | 23 | 85 |
| 4 | Ніткі сучаныя у два і больш канцоў суравыя і беленыя не на дрэўляных шпульках: | | |
| | а) прыгатоўленыя з пражы ніжэй № 50 (водлуг ангельскага азначэньня) | 12 | 05 |
| | б) прыгатоўленыя з пражы № 50 і вышэй (водлуг ангельскага азначэньня) | 14 | 85 |
| 5 | Ніткі сучаныя у два і больш канцоў, фарбаваныя, не на дрэўляных шпульках: | | |
| | а) прыгатоўленыя з пражы ніжэй № 50 (водлуг ангел скага азначэньня) | 21 | 00 |
| | б) прыгатоўленыя з пражы № 50 і вышэй (водлуг ангельскага азначэньня | 24 | 50 |
| 6 | Ніткі сучаныя у два і больщ канцоў суравыя і беленыя на дрэўляных шпульках: | | |
| | а) прыгатоўленыя з пражы ніжэй № 50 (водлуг ангельскага азначэньня) | 11 | 35 |
| | б) вырабляныя з пражы № 50 і вышэй (водлуг ангельскага азначэньня) | 12 | 75 |
| 7 | Ніткі сучаныя у два і больш канцоў, фарбаваныя на дрэўляных шпульках: | | |
| | а) вырабляныя з пражы ніжэй № 50 (водлуг ангельскага азначэньня) | 16 | 15 |
| | б) вырабляныя з пражы № 50 і вышэй (водлуг ангельскага азначэньня) | 17 | 60 |
| 8 | Тканыя і вязаныя матар'ялы вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы суравыя і беленыя | 12 | 05 |
| 9 | Тканыя і вязаныя матар'ялы вырабы бялізна і інш. рэчы з адзежы фарбаваныя і набіўныя, а роўна стракататканыя, за выключэньням афарбаваных у адрыянопальскі чырвоны колер | 25 | 70 |
| 10 | Тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы, афарбаваныя у адрыянопальскі чырвоны колер | 29 | 40 |
| | **2. Вырабы з лену і пянькі, хоць-бы з прымешкаю інш. валакністых матар'ялау:** | | |
| 1 | Пража і ніткі суравыя, а роўна шнуры вагою меньш 76 гр. ў 11 мэтрах даўжыні | 2 | 75 |
| 2 | Пража і ніткі беленыя | 3 | 65 |
| 3 | Пража і ніткі фарбаваныя | 11 | 25 |
| 4 | Тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы суравыя | 3 | 05 |
| 5 | Тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы беленыя | 4 | 55 |
| 6 | Тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы фарбаваныя, а роўна стракатавытканыя і набіўныя | 7 | 60 |
| | **3. Вырабы з джуту.** | | |
| 1 | Пража і ніткі | 11 | 55 |
| 2 | Ткаціны і мяшкі | 13 | 70 |
| | **4. Вырабы з шэрсьці і паушэрсьці:** | | |
| 1 | Шэрсьцяныя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы якія маюць у 1 кв. мэтру вагу ня звыш 410 гр. | 37 | 20 |
| 2 | Шэрсьцяныя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы, якія маюць у 1 кв. мэтру вагу звышу 410 гр., але ня звыш 500 | 35 | 05 |
| 3 | Шэрсьцяныя, тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы, якія маюць у 1 кв. мэтру вагу звыш 500 гр. | 23 | 15 |
| 4 | Паўшэрсьцяныя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы, з адзежы, якія маюць у 1 кв. мэтру вагу ня звышу 410 гр. | 41 | 45 |
| 5 | Паўшэрсьцяныя тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы, якія маюць у 1 кв. мэтру вагу звыш 410 гр., але ня звыш 500 | 39 | 95 |
| | **5. Шауковыя і паушауковыя вырабы:** | | |
| 1 | Шаўковая трошчаная пража | 399 | 55 |
| 2 | Шаўковыя, тканыя і вязаныя матар'ялы, вырабы, бялізна і інш. рэчы з адзежы | 553 | 55 |
| 3 | Паўшоўкавыя тканыя і вязаныя вырабы, матар'ялы, бялізна і інш. рэчы з адзежы | 199 | 45 |
| | **6. Гумаляставыя вырабы:** | | |
| 1 | Гумалястававае абуцьцё (калёшы, бацінкі і інш.) | 10 | 15 |
| 2 | Гумаляставыя камэры пнеўматычных шынаў | 9 | 00 |
| 3 | Покрышка пнеўматычныя шынаў | 208 | 70 |
| 4 | Гумалястовыя, масыўныя шыны (экіпажныя, грузашыны) | 14 | 10 |
| 5 | Гумалястовыя пласьціны бяз падкладкі | 11 | 65 |
| 6 | Гумалястовыя соскі бяз шва | 9 | 30 |
| 7 | Гумалястовыя соскі са швом | 9 | 15 |

*Кіраунік Справамі СНА* **І. Хлоплянкін.**

**239.** **Аб парадку водпуску плаціны дзеля мэты навукова-тэхнічнага досьледу.**

Дзеля разьвіцьця арт. 4 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 году аб дзяржаўнай манаполіі на плаціну (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г. № 4, арт. 80) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Дзеля атрыманьня плаціны і яе падарожнікаў, як у шліхавым і губчатым выглядзе, гэтак і ў выглядзе паўфабрыкатаў і вырабаў, дзяржаўныя установы і арганізацыі, навуковыя інстытуты і асобныя навуковыя мастакі падаюць у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР (па валютнаму упраўленьню) заявы з паказаньнем патрабуемых мэталаў, іх выгляду і колькасьці, а так сама тых мэтаў, дзеля якіх мэталы патрабуюцца.

**2.** Паказаныя у арт. 1 заявы ідуць на вырашэньне народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР ці яго намесьніка, пасьля чаго, згодна гэтаму вырашэньню, робіцца валютным упраўленьнем водпуск мэталаў за грошы, выходзячы з цэнаў лёнданскай біржы.

Увага. Пры водпуску шліхавай або губчатай плаціны, а роўна яе падарожнікаў, народны камісарыят грашовых справаў выдае атрымальніку пасьведчаньне з азначэньнем вагі і роду адпушчанага мэталу, якое зьяўляецца дзеля атрымальніка дакумантам на права законнага зьберагаsucceeded ньня і перасылкі мэталу.

**3.** Аплата атрыманага мэталу робіцца: а) установамі і арганізацыямі, не знаходзячыміся на дзяржаўным бюджэце, і прыватнымі асобамі грашмі, ўнасімымі у скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў, і б) установамі, утрымліваемымі за кошт каштарысных асігнаваньняў,—праз зваротныя пералічэньні з адпаведных крэдытаў у прыбытак казны.

**4.** Атрыманыя у парадку арт. 1 гэтае пастановы плаціна і падарожнікі плаціны у шліхавым і губчатым выглядзе знаходзяцца у атрымальнікаў на учоце і могуць быць перададзены імі па іншаму назначэньню толькі з асобнага кожны раз дазволу народнага камісару грашовых справаў Саюзу ССР (па валютнаму упраўленьню).

Плацінавыя вырабы ці паўфабрыкаты, а так сама плацінавы лом, ідуць у поўны загад атрымальнікаў з правам вольнага далейшага іх скарыстаньня.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **М. Хлоплянкін.**
*Нам. Сэкратара СПА Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**
21 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Аглошана у № 122 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 30 траўня 1924 г.

---

**240.** **Аб дазволе прывілейнага правозу абкладзеных акцызам тавараў праз Гульчынскую мытніцу.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляюць:**
Дазволіць вываз праз Гульчынскую мытніцу 2-га разраду абкладзеных акцызам тавараў з пашырэньнем на іх прывілеяў, прадугледжаных арт. 1 пастановы УЦВК і СНК РСФСР ад 11 студзеня 1923 г. (Зб. Зак. РСФСР 1923 г. № 3, арт. 60)

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
21 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**241.** **Аб мерах змаганьня з фальсыфікацыяй знакаў пачтовае аплаты.**

З мэтаю змаганьня з фальсыфікацыяй знакаў пачтовае аплаты, Савет працы і Абароны **пастанаўляе:**

**1.** Забараніць выраб клішэ па нормалу для друкаваньня пачтовых марак усім, за выключэньнем фабрык загатаўленьня дзяржаўных знакаў.

**3.** Выраб клішэ дзеля друкаваньня пачтовых марак не па нормалу дапушчаецца, але ня начы, як з дазволу мясцовых органаў народнага камісарыяту унутраных справаў.

**3.** Нарушэньне гэтае пастановы караецца водлуг адпаведных артыкулаў карных кодэксаў належных саюзных рэспублік, як за нарушэньне правілаў адчыненьня і карыстаньня друкарскімі установамі і падробка пачтовых марак.

**4.** Агульны нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ускладаецца на народныя камісарыяты унутраных справаў належных рэспублік, якім дадзена выданьне неабходных правілаў аб ужытку гэтае пастановы.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
29 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Аглошана у № 135 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.

**242.** **Аб мерах да разьвіцьця лесаэкспарту на Далекім Усходзе.**

З мэтаю разьвіцьця лесаэкспарту на Далёкім Усходзе, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

**1.** Ускласьці на народны камісарыят шляхаў зносін па цэнтральнаму упраўленьню марскога транспарту прыняцьце мераў да таго, каб пры вывазе лесу з портаў Далёка-Усходняе краіны усе аспаўныя зборы (карабельны, маячны, папудныя у сваей зборнасьці не перавышалі 2,5 кап. з куб. футу.

**2.** Спаганяемыя мясцовымі органамі народнага камісарыяту замежнага гандлю збор з экспартыруемага лесу і збор з заяваў аб выдачы дазволаў на пагрузку—адмяніць.

**3.** Прыняць да ведама зацьверджаныя экономічнаю нарадаю РСФСР таксавыя цэны па дравясіну, адпушчаемую з дзяржаўных лясных дачаў Прыморскае губэрні.

**4.** Мясцовыя зборы і падаткі з прадажнае цаны лесу—2% з дзяржорганаў і 5% прыватных прадпрыёмцаў,—пакінуць бяз з'іначаньняў.

*Старшыня СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СПА Саюзу ССР* **І. Хлоплянкін.**
29 траўня 1924 г. Масква—Крэмль.
Аглошана у № 135 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 15 чэрвеня 1924 г.



Главлит № 19.050. Тираж 1.000 экз.
Типография „Красный Пролетарий" Издательства „Красная Новь". Пименовская, 1/16.